УДК 882.6-1
ББК 84(4Беи)6
К19

*Выданне ажыццёўлена пры фінансаванні з
Фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь
па падтрымцы культуры і мастацтва.*

ISBN 985-02-001[illegible]-2

* * *

На развалінах дзяржаў і свету,
Божа мілы,
голас дай паэту!

У апошні час зямной юдолі
нашым душам я малю спатолі:

песняю астатняга паэта
хай любоў зямная будзе ўспета!

На кругах
яе высокага свячэння
скончым мы сваё летазлічэнне,

каб наступным жыхарам планеты
свой адлічваць час —
ад песні гэтай,

вырваўшыся з бед глухіх палону...
Наш пачаўся,
можа быць,—
з праклёну...

* * *

Выйшла з белага саду.
І па свеце па белым
невідушчыя вочы мяне павялі.
А паперадзе позірку — цень пустацелы:
з сіняй дымкі — галіны,
з туману — камлі.

Сад пакінула белы
і ніколі не сніла...
Моўчкі
            прывід
                        бязлісты
са мною зямлю абышоў.
Ды аднойчы ў мой сад
павяртала таемная сіла —
і з таго боку свету
прыйшла я дамоў!

Вось стаіць ён, жаданы,
поўны весняга цвету!
Абрываецца тут
                        дзірваном
біты шлях...
І каб крык не спалохаў
сон у мёртвых палях,
мне затульвае вусны
палын —
ці скрыжаль Запавету?

## ЗАСУХА

Лета
тысяча дзевяцьсот
восемдзесят шостае
па-над зямлёю маёю
гарачыя крылы распроствае...

Перапёлка нябёсам
ціха жаліцца ў жыце,
а сонца ў зеніце —
неміласэрнае.

Засуха
ў травах пажухлых сакоча,
пылам
агортвае
цёмныя дзікія грушы.
Гэтак
высмоктваюць вочы,
гэтак
высушваюць душы!

Хмары плывуць праліўныя,
ходзяць дажджы заліўныя
бокам,
далёка.
Май... чэрвень... ліпень...
Льецца блакіт, быццам кіпень,
жухне зямля мая, ные.
Спёка.

Нават валун пракаветны
шарай гадзінай дасветнай
з пораў каменных
расу выціскае.
Ціха раса на карэнне сцякае.
П'юць маладыя жыты
дробныя кроплі
жывое вады.

Круцяць, гуляюць віхры,
жаўранак у небе ахрып,
толькі кувае зязюля ў бары...
За-су-ха...

## НЕБЫТАЎ

Непадалёку ад вёскі Небытаў
пачынаецца зона адчужэння.

Край свету...
О родны мой Небытаў!
Купаюцца зоркі-русалкі ў вадзе.
Якое высокае неба там —
і вочы, і думкі крадзе!

Стаіць май у садзе раззорана,
трава маладая ў расе.
Вялікая крыўда заворана,
але што на ёй узрасце?

Спяць ластаўкі ў гнёздах здарожана:
вярнуліся з выраю ўдзень.
Я ў неба гляджу заварожана —
і слёзы, і мары крадзе.

Узняўся пад зоры
і небам стаў
не птах,
не Ікар —
боль зямны.
І, як на далоні, відны:
край свету... у квецені Небытаў...
Якое высокае неба там!

*Май, 1986*

## НУЛЯВЫ МЕРЫДЫЯН

З латуннай палоскі ў Грынвічы
саступіў нулявы мерыдыян Зямлі.

*З навуковай літаратуры*

Даўготы зямныя і час
парушаны ў мудрых табліцах.
А той, Нулявы, да нас
спяшаецца, каб не спазніцца.

Зямля запавольвае рух:
плыве берагіня часу
праз вечнасць —
за кругам круг
цяжэе штоpазу.

Гадзіннікі маняць —
не чуюць ладоў
прадоннага Космасу
іх сарцавіны.
Няма ж у скрозьвечнага часу слядоў —
ні мерыдыяна, ані каляіны.

Шукайце, нашчадкі, між дзікай травы
той час, які страты залечыць...
З латуннай палоскі
сышоў Нулявы —
навек праз Чарнобыль пралегчы!

* * *

*Маім бацькам*

Альсы пераваронaы, раскарчаваны:
прайшоў — не павернеш — прагрэс.
Апошнія тут мы, Соні, Іваны,
падсочаны бор і падсечаны лес.

А дзеці, як вырай, далёка ў адлёце:
— Сюды не вяртайцеся,
едзьце за свет!
О не, не па ўласнай і добрай ахвоце,
нібыта праклён, горкі ваш запавет.

Такога маўчання шчэ неба не чула,
такога злачынства не зналі вякі...
Па мёртвай зямлі
мерным коціцца гулам
век новы —
каб ведаць — які?

Расстайна крычаць пералётныя птахі.
Матуліны астры — нібы зорны шлях.
І падае крык
на замшэлыя дахі...
І вырай у небе чарнее, як шляк!

## МАЙ 1986-га

Больш ні слова аб смерці!
Паглядзіце:
                    вясна
занялася па свеце
і наўкола — яна!
Травы, лісцейкі, кветкі
узышлі, расцвілі,
зелянеюць палеткі,
птушкі гнёзды звілі...
У застрэшшы спяць косы,
а па травах — на смех —
малады гром і босы
асцярожна прабег.
У прыродзе ўсё рада:
мы навек, назаўжды!
То спрадвечная праўда
для травы і вады.
Ясна свецяць суквецці,
прашумеў дождж і сціх...
Я прашу:
                хоць на міг —
НЕ!
      Ні слоўца аб смерці.

## ПРАЗ НЕБЫТАЎ ПА БЕРАЗЕ НЯБЫТУ...

Праз Небытаў
па беразе нябыту
іду ў свой храм —
дубовы гай.
Зямля яшчэ снягамі апавіта,
а цені веснія ўжо ладзяць грай!

Не ўсе вядомы родныя магілы,
даўно астылі на зямлі сляды...
Склікае напрадвесні гаю мілы,
як вырай, душы нашыя сюды.

Вось заірдзее снег, прыгрэе сонца,
і першым прыйдзе дзед мой Аляксей:
на свежым зрэзе злічыць кольцы,
чарнявым чубам сумна патрасе.

Да ног яго
ілбом гарачым,
як горкі вецер, прыпаду,
далей ад воч людскіх паплачу...
— Чакай увесну чараду!

Узыдзе сон-травой
журба дзялянак,
дзень Аляксея вызваняць званы,
з усходам сонца выйду я на ганак
страчаць радню —
і вось лятуць яны,

крыло ў крыло,
вынырваюць з блакіту
і кружаць, узіраюцца ў край мілы...
Вяртаецца мой вырай белакрылы —
у Небытаў
да берага нябыту.

* * *

У полі — жураўлінае пяро,
сышло з лугоў рамонкавае лета...
Іграе дзядзька — гарманіст Пятро,—
і кружыць восень
залатым, барвовым цветам.
Яшчэ адно зямное лета адцвіло,
адкрасавала, выспела ўраджаем.
Адпачывае сцішана сяло,
і дзядзька,
з невядомым мне адчаем,
расцягвае гармоніка мяхі
і тупае нагою ў такт прыпеўкі:
«Паблудзілі жаніхі
каля лаўкі ў Леўкі...»

У полі — жураўлінае пяро,
плывуць аблокі, нізкія, рабыя.
І ўдарыць раптам
прадзімовы гром
няродным словам —
р а д ы е ф а б і я!
Цямнее вечар. Кураць мужыкі.
Блішчыць вада ў глыбокай каляіне.
...І спеў гармоніка ірвецца з-пад рукі —
у неба
ўслед за клінам жураўліным.

* * *

Вашы вобразы, як абразы,
нада мною з дзяцінства світалі.
Я не ведаю большай красы,
я не ведаю большага жалю.
О мадонны палескай зямлі,
плешча Прыпяць у вашы далоні!
А вятры, як здзічэлыя коні,
здратавалі лугі і палі.
І дажджы ўпалі мёртвай вадою —
на палеткі, разлогі і лёс.
Пасмы горкага пылу між кос
уплятаеце разам з бядою.
І вядзе вас ад краю да краю
Беларусі выгнанніцкі шлях...
Як куюць зязюлі ў гаях
і салоўкі пяюць — нібы з раю.
Родных,
 вас у мігценні слязы
закахана нябёсы вітаюць.
Вашы вобразы, як абразы,
прада мной неадольна світаюць...

* * *

Па дарозе шырокай
                    між палескага гаю
ў запаветны свой край прыязджаю.
Зноў вяртаюцца птушкі з адлёту —
у лясы, на палі, на балоты.
Чым суцешыць цябе,
край, самотны навекі?
Ні ў гульбе, ні ў жальбе
не знаходжу я лекі.
Не знаходжу я словы
для збалелай душы...
Як сівеюць галовы
соснаў
          каля шашы!

Памаўчым каля Хойнік
ды паслухаем вецер,
малады сіні хвойнік
вечарова прывеціць
і чужых, і радзімых —
цішынёю радзімы.

А калі запытаюць,
як тут,
          што ды пачым? —
прамаўчым.
А калі завітаюць
у наступных стагоддзях
на глухія шляхі,

у зарослыя вёскі —
хай прыходзяць,
падсумуюць
набыткі і страты ў «вялікім паходзе»...

Але ўсё ж за якія грахі,
быццам свечкі,
палаюць бярозкі?

## ЗОНА

Я ў зоне нясцерпнага болю:
над краем маім крыж-накрыж маланкі —
ад болю не могуць яны расчапіцца,
блакітны агонь выкрасаюць.

І падае гэты агонь
на чорныя стужкі дарог,
на сінія рэчкі, азёры
ды на залатыя хлябы
і ў душы людскія ільецца.

Па левую руку — зняможана песня,
па правую руку — зняважана слова...
Мы ў зоне высокага болю,
глухога маўчання.

Ідзём наўпрасткі, наўманкі,
дзень гасне, займаецца ноч.
Але ў святле гэтага болю
відаць! —
і звера, і птушку, і гада.

Вось гэтак хадзіў па зямлі
сто год таму, можа, і болей,
з прарочымі словамі старац сівы —
казалі, з суседняе вёскі.

Збылося прароцтва яго.
Назад адгарнуць немагчыма

2. Зак. 5136

старонку — у кнізе стагоддзяў,
якая амаль дачытана.

І нехта ўжо іншы ідзе
і след чалавечы шукае —
па зоне бязмоўя, па краі,
яго зноўку
слова
вядзе.

Спяшаймася, песня і слова!
Замкнуцца не дайце мяжы адчужэння
ад мовы, дарованай Богам:
яе паражэнне — Яго прыніжэнне...

Спяшаймася, слова і песня,
бо надта стаў «добрым» народ беларускі:
яму апроч шклянкі і сала —
ні-чо-га! —
сцвярджаюць, не трэба.

А што, калі трэба?!
І болей, чым хлеба,
святла і ратунку, і Божае ласкі,
каб «зонай» не стаць
без зямлі і без неба,
куды перуны толькі ляскаюць.

Пакуль жа над краем
крыж-накрыж маланкі...
Спяшаймася, песня і слова:
прад намі — Чарнобыль,
за намі — прароцтва,
а па-над усім — Летазлічэнне!

## НЕ ЎРАДЗІЛА ЗЯМЛЯ, ЗАХВАРЭЛА

Не ўрадзіла зямля, захварэла:
колькі тое трывогі на век!
Надрываецца і чалавек...
Захварэла,
                да рук прыкарэла.

І лягло маё роўнае поле,
не ўпрасіць, не ўгразіць —
не падняць.
Па-над ім жураўліная доля
кружыць з крыкам, нібыта радня.

Хлебадайным было майму роду
поле, хрышчанае ў агні.
Ах, як ныюць на непагоду
шчэ і сёння дубоў карані.

Абудзіся, зямелькі гаючая сіла!
Здратаваная ўшыркі і ўдоўж,
адспявала, адгаласіла.
Як паранены птах,
                цяжка падае дождж.

Што з таго, што гудуць касмадромы?
Вось зямля мая змоўкла,
                знямела, як цень.
І з пустымі вачніцамі
                дух нявядомы
па начах енчыць на жываце.

Прыпаду да халоднага чорнага глею,
можа, грудку зямлі
адагрэе душа...
Разумею твой боль —
і ў маўчанні нямею:
як цябе перайсці, адчужэння мяжа?

# РАЗВІТАЛЬНЫ ВЕРШ

*Памяці Барыса Сачанкі*

Негадана так прыходзіць гора.
У нябёсах — адзінокі жораў.
То ўзмахне крыламі, то застыне,
трубны голас коціцца ў святлыні:
«Колькі сілы маю — пагукаю,
варагоў і родных пасклікаю
на высокі круг свой развітальны,
на апошні покліч даравальны.
Азірнуся з неба, пакружуся:
без мяне вам жыць на Беларусі...
А яна — як выдых Пана Бога.
Апроч вас няма ў яе нікога.
А яна, цярплівіца святая,
прыйдзе час — усё нам прыгадае.
Не гарцуйце на яе магілах,
не глуміцеся з радзімы мілай!
Шчэ й не веру сам, што адлятаю
да чужога воблачнага краю.
Ноч апошнюю, мая Купала,
як я начаваў — не запытала.
Распляла вянок з рамонкаў, смолак,
не сказала,
дзе шукаць ад сэрца зёлак.
Не сцямнелася, а развідняе...
Лёгкай смерці, верце, не бывае!
Цёплае, як Божае дыханне,
над зямлёю роднаю — світанне...»

*7 ліпеня, 1995*

* * *

*М. Мятліцкаму*

Вясна адхуквае, адгойвае зямлю,
Палессе займецца святлынню вербнай.
Пяшчотны край і ўсё, што я люблю,
атулена
нябёс любоўю вернай.
Не вернуць згубленае плач і страх.
Трывайце, не трывожце летаргіі.
Што з праху ўстала —
зноўку прах.
Смяротны цень адстоіцца ў вірах,
тут узнясецца
спеў бязмежны
літургіі!

Бо не праклён,
а Божы запавет
скрыжаллю лёг,
бы крыжам,
над Айчынай.
На лік яе жагнацца будзе свет,
як на абраз,
акрыты аблачынай.
А час накручвае на свой навой
і веру, і адчай, і галашэнне.
...Не нам
радзімы ўбачыць абуджэнне:
нам — сны яе,
што ўсходзяць сон-травой.

## ВЯРТАННЕ

Колькі веку ў маўчанне сплыло...
Ды ўзялося блакітам світанне!
Прада мною ляжала сяло,
і стаяў час вяртання.

Прада мною ляжала сяло —
ані ветрыку, ані дыхання.
Адзіхала, адляскала зло.
Непрабудная ціша адхлання.

Нічыя не ступала нага
у расколіну
памяці й часу.
Плешчуць воды ў яе берагах —
Ні людскога,
ні Божага гласу.

Да палескіх балот
і нізін,
да асушаных рэчак
і бродаў
з нізкіх хмар і заснежаных зім
павярталіся верныя воды.

Пазрывала асфальт і масты.
Час замёр
за мяжою адчаю.
Маладымі вяршкамі кусты
мне дарогу дамоў пазначаюць.

Не баюся глыбінь — дабрыду.
Страх на родным парозе чакае.
Узіраюся ў дымку-жуду:
хто ж мяне сустракае?..

## ДЗІЧКА

І ўзышла на вогнішча дзічка...
Асцярожна ступала,
каб незнарок
не зачапіцца каранямі за камяні
і не ўпасці
за некалькі крокаў ад агню...

Хтосьці, знясилжаны шляхам,
астуджаны сіверным ветрам да сэрца,
заручаны лёсам
з посахам, плахай,
аднойчы расклаў тут агонь, каб сагрэцца.

Ён, невядомы, ды вечны вандроўнік —
воін, выгнаннік ці сын чый аблуда,
зорнага неба святы малітоўнік
па-над агнём на далонях трымаў,
нібы цуда.

Гэтаю ноччу, прыпаўшы да тайны
і адагрэўшы душу і сэрца,
ён растварыўся ў блакітным світанні —
толькі пакінуў у полі цяпельца.

Дзіўны агонь скрозь стагоддзі свяціўся
ў чорнае ночы разлогах.
Шмат хто маліўся прад ім
ці вініўся
на палыновых палескіх дарогах.

Родны мой краю,
шляхі зарастаюць,
нівы дзічэюць, імшэюць магілы,
птушкі цябе аблятаюць,
краю мой мілы!

Стыне таемны агонь, пракаветны,
небам, людзьмі ён забыты...
— Будзь дальнім зорам,
                                        мой краю,
                                                        прыкметны
ў сполахах чорных нябыту!

Ах, як трымае зямелька карэнне...
Гэтакі боль...
Прыкарэла чырвоная гліна...
Сыпаўся цвет белым ліўнем з галінаў —
на чарнабыл,
                    на глухое каменне.

І ўзышла на вогнішча дзічка!
І стаяла свячэнне
ад зямлі да неба —
празрыста-ружовае,
як сарцавіна
                    ў дзікіх грушаў...

## ДАЛЁКА АД ПЕСЕНЬ І СЛЁЗ

Далёка ад песень і слёз,
дзе ўпалі на долы аблокі,
праз лес абгарэлы,
зрудзелы алёс
блукае агонь адзінокі.

І вецер палескі кранае мне скронь
расстайным крылом галубіным.
Чый гэты нясцерпны агонь —
маланкі ці нетраў глыбінных?

Пячаткаю болю затулены рот:
засвойвай прамудрасць маўчання,
тут хіба гаворыць птушыны народ,
ды звоніць мой бор велічальна,

ды толькі між дрэў зіхатне, прамільгне
блакітны агонь — і нікога!
Зямлі маёй тайна
адкрылася мне:
высока — да неба тут,
блізка — да Бога!

Тут мерыцца час па законах агню,
адлічвае леты перыяд распадаў.
І душы
паслухаць ляцяць цішыню,
дзе свеціцца ў росах і вечнасць, і праўда,—
далёка ад песень і слёз...

## АСЕННЯЕ

Асенняя сімфонія зямлі
і неба, што слязамі пралілося...
Скрыпачкі-яблыні вялі
матыў пакорлівасці лёсу,
ім адгукаліся палі,
і бунтавалі ў кроў, здалося,
каліны ў лузе — як маглі.

Было знаёма
                    чуць душы
і жаль ад страт,
                    і спеў кахання —
што кожны зведаў, пражыў,
ці то маліўся, ці грашыў,
у песняспеве развітання
пачуў сябе...
Адно ў цішы
плыла да Бога толькі — т а й н а!

## СЛЯЗА

Такая драбяза — сляза!
Пакацілася з вачэй,
упала на дол
і... высахла.
Не прапякла зямлю навылёт,
не растапіла апошні лёд...
А казалі ж: сляза — гарачая,
чалавечая ці сабачая.
А казалі ж: сляза салёная,
нават жухне трава зялёная.
Не. Яна
пакацілася з вачэй,
упала на дол
і... высахла.

А твая сляза
мне на сэрца ўпала,
апякла мяне —
не пашкадавала,
скрозь душу прайшла —
не паратавала!

# НАЧНОЕ ВОГНІШЧА

Сплываюць на агонь
жывой галіны сокі.
Маўчым,
бо душы любяць
паслухаць цішыню.
Прасвечваецца змрок
па-над агнём высокім,
і ў ім малюнак цемры —
ірвецца ў вышыню.

Трапечацца святло,
выхоплівае ўзоры:
крыло бусла,
                    і ветру,
і чорнага крука...
Трапечацца святло,
плыве, як час, рака,
і падаюць на дно
з нябёс тугія зоры.

* * *

Я ўсё забыла: боль і страты...
Сем туманоў, як сем вякоў,
глухой смугой стаяць ля хаты —
яна ў зямлі
на сем вянкоў.

Блакіт і дым — мае адзежы,
як скразнячок — мой лёгкі лёт.
Нікому болей не належу:
забыта памяць — навылёт.

На ўсіх адрынута дарогах,
паратаваць каго змагла?
Любоў вяртаецца да Бога,
мой след зацягвае імгла.

У міг апошні з небакраю
усіх, хто выракся мяне,
з надзеяй позняй аклікаю.
І не пачулі зноў!
Знікаю —
на новы круг душа імкне,
дзе страты, боль і жаль забыты —
за белы воблачак нябыту.

* * *

Трава распрамляе сляды
мае і чужыя.
І стану
на крок ад вады,
на паўкрок ад бяды —
на жоўты сыпучы край зману.

Затужыць, заплача душа:
нікому яе не суняці.
Згадае радзімыя душы спярша,
пасля — поле, луг, сенажаці...

І гэтак ёй будзе балець
па ўсім неспазнаным,
па ўсім неназваным,
што сёння сплывае
                за белым туманам,—
і ўжо не пазнаць, не сустрэць.

І лёгкія крылы я ёй развяду —
папросіць аб волі без страху.
І прымуць яе ў чараду
адвечныя белыя птахі!

## ЖНІВЕНЬСКАЕ

Вецер — спрытны канакрад,
цераз плот —
і збег у поле...
Абцярушыў зоркі сад,
быццам яблычкі ў прыполік.

Жнівень, ночка... У адно
два зліваюцца дыханні.
Спіць наўкола ўсё даўно,
апроч
саду і кахання.

Светлячкамі па траве
яснавокія рамонкі...
Яблык
цётка Ева рве —
будзе ў свеце зноў гамонкі!

# ЦЫГАНСКІЯ ДАЖДЖЫ

Маленства. Сонца. Дождж.
І вуліца ў бясконцасць.
Шчаслівa басанож
бяжым, бяжым уздоўж
мяжы —
            дажджу і сонца.
Вясёлак не злічыць,
іх браць у рукі можна,
спявай, скачы, крычы,
так сонечна, мурожна!
Іскрыстае радно
налева і направа:
здаецца, што ў адно
зліюцца казка з явай.

Цыганскія дажджы,
смяшылі і сляпілі.
Цыганскія дажджы...
Мы іх усе любілі.
У горкі час тужу
і — ціха веру ў цуды! —
цыганскага дажджу
вясёлыя эцюды.

* * *

І вось апала, абляцела
з высокіх дрэў густое лісце...
Як доўга восень шапацела,
як расказаць яна хацела —
аб чым?
Аб чымсьці...

Шчыміць у пальцах іней белы.
Я зразумела не багата:
усё, што з лісцем абляцела,
усё, што ў восень адбалела,—
яшчэ не боль,
яшчэ не страта.

Мой белы свет — цалюткім-цэлы!
Вячэрні прыцемак на сцежцы,
неразумелы боль на сэрцы
і сум, нібы спалох, на ўсмешцы.
Трывожна...
Лісце абляцела...

# ПАЎНОЧНАЯ ЗОРКА

Скрозь смяротную стому
шукаю Паўночную Зорку,
там край свету —
і стыне апошні пагляд...
Праз глыбокую цемру
жвіровага ўзгорка
на Паўночную Зорку
ўзіраецца — брат...

І жывым, і памерлым
яна асвятляе дарогу —
светач вечнасці
ў нечай нябачнай руцэ.
З ёй і неба радней,
і бліжэй шлях да Бога,
і сляза саланей,
што бяжыць па шчацэ...

* * *

Паміж намі — аблокі, нябёсы,
паміж братам і мною — жвіры...
Ходзіць вецер, раскосы і босы,
пад акном, што да ранку гарыць.
Ноч якую ён гэтак блукае?
І каму голас ён падае?
Хай сягоння спакой адшукае
і прыляжа на рукі мае.
Ён бязгаласна ўсхліпне спрасоння
і да шарай гадзіны спачне...
Толькі ведае зорка ў акне,
што ў мяне дзіўны госць быў сягоння.

## ПРАВОДЗІНЫ

Праводзіць з гармонікам вёска
на службу ў чужыну салдата.
Ну, вось і апошняя хата,
наперадзе — войска.

Модныя джынсы, красоўкі,
прычэсаны чуб зухавата...
Вяртайцеся, мама, сяброўкі,
далей не праводзьце салдата.

Сцяжынка віецца ў бур'яне
і пахне так дзікаю мятай!
Вяртайцеся, ластаўкі, кані,
далей не праводзьце салдата.

Цвіціце і спейце, каліны,
пад вокнамі роднае хаты.
Два леты ўсяго і дзве зімы —
зусім небагата.

Каб сок не праліўся да долу,
зашэрхлі рубцы на бярозках...
Упору чакай, мая вёска,
вяртанне салдата дадому.

Праз два гады хлопца чакайце,
вы ж толькі раней — не страчайце!..

# У ДОМЕ МАІМ

Цёмным крылом ноч затуляе акно. Цікае ў цемры гадзіннік і раптам сціхае — тады спыняецца час. Праз акно ільецца ў мой дом не зорак святло, а мутныя воды Кунара. Глыбокія воды. Далёкая горная рэчка цячэ паміж мною і братам.

Я кідаюся да акна, спрабую яго засланіць, рукамі, сабой супыняю раку, каб плынь павярнуць. А яна злуецца, вірue і цячэ цяпер праз мяне...

Чую, стогне ў сне брат. Ён вяртаецца ў сне з таго берага, тройчы тоне — і тройчы выплывае.

...Запальваецца святло, брат шукае цыгарэты.

Пытаюся:

— Чаму ты не спіш?

Адказвае:

— Ізноў сон сніўся: нашы хлопцы, камбат... і гэтыя страшныя твары... Снілася, што я пераплываю Кунар. Насілу даплыў. Тры разы тануў. Ну яго, паганы сон...

Я ў страху маўчу. І ён маўчыць.

— У мяне ёсць рэланіум. Выпі таблетку...

Маўчанне.

— Прашу цябе, не трэба так многа паліць...

Гасне святло.

Баюся заснуць.

У доме маім — бяссонная памяць...

## КАЛІ ЦЯБЕ НЕ СТАЛА...

Калі цябе не стала, у доме маім спыніліся ўсе гадзіннікі. Тлустая чорная стрэлка — апоўначы. Доўгая стрэлка мінутная — за хвіліну да апоўначы. А секундная стрэлка рухавая не дабегла да іх на секунду.

Мо на тую секунду шчаслівую, што цябе ўратавала б...

Спыніліся гадзіннікі. Яны адлічылі: дваццаць тры восені, дваццаць тры зімы і няпоўную дваццаць трэцюю весну.

Я іх не трывожу і не кранаю. Цішыня завісае ў пакоі. Паміж мною і братам — спынены час...

Толькі ноччу глыбокай сам сабой ажывае званок. Так званіў ён, калі ты прыходзіў. І тады цішыня, асветленая поўняй, рассыпаецца на зорны пыл, які мне балюча рэжа вочы. І коцяцца слёзы, доўга і буйна.

Я штоночы цяпер прачынаюся ад званка... які павінен быў прагучаць у той нешчаслівы вечар, калі я прыбірала хату, чакала ў госці брата — да самага досвітку, усю ночку ўсяночную і не ведала, ЧАМУ ў доме маім спыніліся ўсе гадзіннікі.

## ГОСЦІ

Прыходзіла бабуля і прасіла накапаць чырвоных буракоў. Я не паслухалася. Але, як ні дзіўна, наша бабуля не пакрыўдзілася і з пустымі рукамі вярнулася на той бок свету.

Тады прыйшла суседка, з хворымі, паламанымі рукамі: мужык пры жыцці з яе моцна знушчаўся. І папрасіла нарваць квасолі. О, як смачна некалі парыла баба Алеся квасолю! І шчодра нас, малых, частавала.

Пасярод здзірванелага агарода расла ў яе градка квасолі, а побач, на нашых разорах, стручкі звісалі рэпехам, праўда, яшчэ зялёныя. І раптам пачалі спець...

Я пашкадавала бабу Алесю і нарвала ёй квасолі з нашага агарода. Нічога не сказала старая, адно — паглядзела мне ў вочы, доўга і цяжка. Так пазіраюць на нас чорныя дзіркі нябёсаў.

...Неўзабаве вялікае гора ў нас адбылося. І выспелі слёзы заўчасна, як тая квасоля...

А на днях зноў прыходзіла наша бабуля. На восеньскім познім пустым агародзе яна выкопвала апошнія карэньчыкі.

## НОЧ НА РАДАЎНІЦУ

Прачнулася ад радасці ў слязах,
такой ніколі радасці не мела!
Хутчэй да мамы,
                    каб сказаць:
яны жывыя! ажылі!
Знямела
я азіраю нашу хату,
але няма
          бабулі, брата...
Вось толькі што я з імі гаварыла,
дапамагала з лавы ўстаць, карміла,
і ява горкая
               была нядобрым сном.
Усе мы разам дома, за сталом,
паклічу толькі маму, тату —
такая радасць сёння, свята!

...Да рання плакаць — не суняцца:
чаму ж было мне прачынацца?

* * *

Лёгкі снег, млечны подых нябёсаў...
Гэты дзень — ці то ява, ці сненне?
На галінкі рабінаў і лозаў
абцярушвае лёс летуценні.
І не іней — зямны іхні вырай
засыпае мне вейкі і скроні.
Я хачу быць каханай і шчырай,
я шукаю сабе ў свеце роўні.
А калі ж у сутонне прастораў
адплыву летуценнем і знікну:
значыць, голасам трубным аклікнуў
з-за аблокаў
мой родны брат-жораў.

* * *

Я малю сёння: веры і сілы! —
утрымаць свой цяжар.
Невычэрпным агнём
наліваюцца жылы:
у зеніце —
расплаўлены вогненны шар.

Моцна правай рукою трымаю
залатое праменне
світальнай зары.
А змяркальная барва
плыве з небакраю
і крывава
у левай гарыць.

І сышліся на небе —
світанне, зеніт і змярканне!
Час, трохвокі цыклоп,
супыніўся на міг...
Дзіўны сон!
Гарачыню
святло
скрозь мяне працякае...
Падалося: з-пад вокладак
колішніх кніг
гэта вечнасці позірк,
відушчы, спасціг
на імгненне — усё,
што пасля ў вечнасць кане.

## НА ДОСВІТКУ

Твой досвітак самы прыгожы на свеце,
дзіцятка, на шчасце займаецца дзень!
Як толькі магу, замаўляю смерць я:
на досвітку не хадзі між людзей...
Па камянях зрошаных,
па ворыве чорным,
па лугах някошаных,
па вадзе вольнай
табе, смерць, не ступаць,
не хадзіць,
не лятаць,
не плыць —
на досвітку!
Скамянеюць ногі — на камені,
урасцеш да грудзей — у ворыве,
тваe крылы пакруціць атаваю,
праглынуць цябе воды вольныя —
на досвітку!
Забараняю, замаўляю, перапрошваю!
З-за белага гаю,
з-за сіняга краю
плыве па-над пожняю
сонца высокае...
Наша сонца з табою, дзіцятка!

## ХВЯДОРА

Страшна памерці. І хочацца жыць...
Век павуцінаю ў сенцах дрыжыць,
сонечны промень праб'ецца —
і павуціна парвецца.
Моліць старая ўначы:
«...злітуйся... дай...: надтачы...»
З цемры, як з бездані, чорны павук
выпаўз — паўзе да бабуліных рук.
«Дай мне паесці румянага цела,
дай мне напіцца салодкай крыві —
дай! —
 калі жыць захацела
болей за век свой крывы...»
Ёсць яшчэ сіла ў старой адкупіцца:
«...дам і пад'есці, дам і напіцца».

Тоне ў слязах маё гора...
Баль адгуляла Хвядора...

Небам адрынута, смерці баіцца,
ходзіць у маміны сны, як лісіца,
шэпча, хусцінку прыклаўшы да шчок:
«...сына забрала, вазьму і дачок».
Лёс павуцінаю ў цемры дрыжыць.
Страшна памерці — і страшна ўжо жыць...

# ПАМЯЦІ ЯЎГЕНІІ ЯНІШЧЫЦ

1

Зіхоткі волас залаты
акрэсліў твар і сум усмешкі.
Ты з незваротнай чарады
па промню зорнай
ценькай сцежкі
на міг адзін
зайшла ў пакой —
хоць знак падаць,
што ўсё там добра.
Свяціўся велічны спакой,
а за акном —
шумеў дождж дробны.
Адлёг ад сэрца мне цяжар —
не нам судзіць сяброў
і родных...
Зіхоткі волас
лёг на твар,
на сум усмешкі —
незваротны.

2

Праімчаўся
твой конь наравісты
праз халодны світанак, пусты.
Віўся вэлюм
туманам імжыстым,
выплывалі з туману — масты.

Ні душы на бязлюднай дарозе,
ані гуку
ў прасторы зямным!
Воўчай скурай
ляжыць на парозе,
дзе прысядзеш,
спачнеш у знямозе,
воўчай скурай — кілім.

Як трава, застываю ў зняменні
перад доляй адчайнаю той:
і любоў,
і твой боль —
як знаменне,
аблачынай плывуць залатой.

## ВЕЧАРОВАЯ ХМАРА

Вечаровая хмара акрыла
цёмным гневам
лугі і палі.
Як баляць паламаныя крылы —
не падняцца
ад чорнай раллі.
Каб глуміцца так
з прагі палёту,
так спакусіць
і кінуць на дол!
Мае сёстры
крылатага роду
нізка кружаць,
крычаць навакол.
Запякаецца кроў
у гартані,
чырванее ралля
з-пад грудзей...

Белым воблачкам
цень мой паўстане
і — адвернецца ён
ад людзей.

* * *

І воблакі, і хмары, і жыццё,
і незлічоных страт
рубцы на сэрцы...
Душа мая, якое пачуццё
табе шчэ зведаць, каб не ўмерці?
Блакітны дым спрадвечнае мяжы
і хісткі чоўнік лёсу — у прасторы.
Салодка спяць у Богавым каўшы
зямныя абцярушаныя зоры.
Душа мая, сон гэты не для нас!
Палае бэзавым туманам край стагоддзя...
І адлюструецца ў вачах тваіх
сам час —
усё, што адыходзіць ці прыходзіць.

# БЫЎ ДОЖДЖ

*Л.П.*

Быў дождж...
Ірвалі дрэвы
з зямлі сваё карэнне
і падалі са стогнам —
хадзіць не могуць дрэвы.
Быў дождж...
Вужы і лісы,
ласі, ваўкі, алені
збіваліся да гурту
і пазіралі ў неба.
Быў дождж...
Ламала крылы
вада
        вялікім птушкам,
а птушанят і дробных
збівала яшчэ ў гнёздах.
Быў дождж...
І Мінск гайдала
у Божым гневе
                ветрам.
Спяшаў хтось да вакзала,
і ўсё наўкол чакала
прысуду або цуду —
канца стыхіі.
Быў дождж...
Дзівак жа беспрасветны
здымаў на памяць фота —
здалося на імгненне,
так, першы дзень п а т о п у...

* * *

Вырывалася, нібы з цянётаў,
каб пазбыцца кахання свайго.
Хто мог ведаць, што птушкаю потым
ля акна апынуся твайго?

Белагрудаю птушкай, ружовай,
з залатою зарой пад крылом,
аклікаю цябе ціхім словам...
Адчаго столькі год пусты дом?

Я адолела буры, мой мілы,
акіян і разлуку-бяду.
Без цябе ні жыцця мне, ні сілы.
Дай далоні — я ў іх упаду!

Колькі зведана тлуму і болю,
каб аднойчы было зразумець:
у расстанні ніколі не мець
нам з табою — ні шчасця, ні волі..

## АПАЛІНЫ

Апаліны, Апаліны,
гай чырвонае каліны,
Апаліны
апалілі
крылы жураўлю.
Крылы — лёгкія, тугія, маладыя...
На сады і на рабіны,
на падмерзлую зямлю
лятуць пёркі залатыя.

Нехта кажа:
— Сыпле ліст...
Нехта скажа:
— Хутка снег...
І зайграе гарманіст
на вяселлі —
без мяне.

## Я ПРЫЕХАЛА РАЗВІТАЦЦА...

Я прыехала развітацца з горадам:
шэрым — у дождж,
белым — у снег,
ясным — у сонца.
Я прыехала развітацца
з гордаю
верай у цуда
і марай бясконцай...

Будзе бруку калюча
ад крокаў,
а далоням —
ад ружаў у цвеце.
Пэўна, памяць схавае глыбока
майскі дождж,
і ружовае вецце,
і зару, што ваверкай рудою
скача з даху на дах соннай Рыгі,
калі ў досвітак — дрогкі і ціхі
раняць крылы над цёмнай вадою
хмары і мары...

Не сустрэцца, о не, не спаткацца,
я прыехала — развітацца...
з горадам,
мілым горадам...

* * *

Я заплюшчу відушчыя вочы:
гэтак кліча, чакае дарога,
па якой ходзяць душы да Бога,
зоркі, як пытляваны пясочак.
І лязом — гойстры промень астрала.
За ману, што абразіла словы,
неба душы нябытам карала —
неадкупна, няўмольна, сурова.
Перад Богам я мовіць гатова,
і на вуснах мой шэпт з небакраю
праступае расою барвовай...
«Без кахання твайго — паміраю!»

* * *

Чакаць не варта нечаканага ліста.
І пошта галубіная не ў модзе.
Такая чысціня,
                такая ясната
ў зачараванай студзенем прыродзе!

І ўжо не боль,
                а снегавая бель
суцішыла душу і лес глыбокі.
І ціха патанаюць мае крокі —
у трыдзесятым царстве
                за трыдзевяць зямель.

Вячэрняя займаецца зара,
ніжэе неба, цёмнае на ўсходзе.
Я счаравана згодаю ў прыродзе.
Свіціцца тайнапісам
                белая кара...

* * *

Я слаўлю свята гадавое!
Год высакосны — на зыходзе:
і нешта зменіцца ў прыродзе,
магчыма, дрэннае надвор'е.

Чакаю лёгкі снег, пушысты,
чакаю шумны Новы год.
Тупоча снежань ля варот —
старэнькі, стомлены, імжысты.

Для раўнавагі два крылы —
бяда і радасць — за плячыма.
Так пачынаюцца, магчыма,
і лёс, і песня:
                    два зачыны...
І я пытаюся ў жанчыны:
аб чым журыцца вам,
                              калі

год высакосны — на зыходзе
і хутка свята гадавое,
вас разам з вершам дома — двое
і штось мяняецца ў пагодзе?..

## АДЫШЛО, АДСНІЛАСЯ, ЗБЫЛОСЯ

Адышло, адснілася, збылося,
у калматы вузел завілося.

І ляжыць, і стыне сярод поля,
уздыхае, жаласна скуголе.

Гэта здрада,
                што сабе не рада,
гэта слёзы
                і мая пагарда.

Вецер боль у скрутак завівае...
Ты каціся, крыўдачка крывая,

дзікім краем,
                дзе не ходзяць людзі:
ні да кога болей не прыблудзіш.

Ты каціся, да зямлі гарніся —
да мяне
            ніколі не вярніся!

* * *

Я жалем белым ападу на голле
высокіх дрэў
                    уздоўж тваіх дарог.
Вятры пяюць у чыстым белым полі
аб тым, што ты забыць не мог.
Мы памаўчым на вечаровай зорцы сіняй,
сціскае на марозе абалонь,
кладзецца белым-белы іней
табе ў далоні — быццам на агонь.

* * *

Пакідаюць
                    і жанчыну,
                                        і Айчыну,
пакідаюць
                    і анёлкаў-немаўлят...
Не шукайце мудрага мужчыну:
на зямлі даўно ўсё неўпапад.
Паміж намі — бездань,
                                        а не пустка.
Прывідны над прорваю масток.
І надзеі
              бэзавая хустка
адплывае між рудых аблок.

* * *

Дзе карэта з абяцаным прынцам?
Мілае, наіўнае дзяўчо,
гэта вецер коціцца гасцінцам,
холадам кранае за плячо.
Блудны, брудны,
будзе гаспадарыць
над душой, адкрытай для любві.
Пажадае —
і без жалю ўдарыць
ды глумліва выдыхне:
— Лаві!..
Перакруціць лёс твой, насмяецца
і пакіне ў ганьбе і віне...
Калі глум
каханнем
шчэ завецца —
хай цябе каханне абміне!

* * *

Вы не прыедзеце —
не запрашаю болей
ні ў гай дубовы,
ні ў луг мядовы,
ні ў росквіт поля.
Вы не прывецíце
мяне і ў свята
ні словам цёплым,
паглядам добрым —
чым вінавата?
Песня нярodная —
я незваротная!

Вы не прыкмеціце:
цвіў васілёк — ды высах...
Праз край крынічны,
праз свет грамнічны
дарога — прысак.

Перамаўчым, ператрываем —
з душы любоў мы вырываем...

* * *

Прыкмета свята — адзінота,
снег ільняны абруса.
На дне віна —
віны гаркота,
але якой — не разбяруся...

Шалеюць вецер і залева —
як уяўлення знак нябесны.
Ноч на парозе каралевай
стаіць маўкліва і балесна.

Святочны вечар адплывае,
трывожыць мары мы не будзем.
А котка лапкай намывае
не, не гасцей — чарговы будзень.

* * *

Усё па вялікаму ліку —
і дзень над зямлёю, і ноч.
А мне не стае вашых воч,
як неба — адзіных, вялікіх.

У свеце так кружыць зямлю,
аж сыплюцца знічкі пад ногі.
Я ўсе замаўляю дарогі
вяртаць да майго вас агню.

О ведай,
расшчэплывае атам
не толькі каменне — а лёс.
Зноў зоры палескіх нябёс
світаюць над нашаю хатай.

Сплываюць у неруш гадзіны,
кароткая летняя ноч...
Каб ведаць маглі, мой адзіны,
як мне не стае вашых воч!

* * *

Сціхла ўсё. Лёг мяккі снег.
Тоне ў гурбах мройнае дасвецце.
Ад тваіх акон няўцешны вецер
толькі пасля трэціх пеўняў збег.

Што спяваў табе бяссонны госць
і аб чым іграў на белых гуслях?
Можа, што любоў на свеце ёсць,
можа, што аднойчы я вярнуся...

5. Зак. 5136.

* * *

Няўжо і я вось так прыходжу
у вашы бэзавыя сны —
як промнік даўняе вясны,
як ціхі пошум верасны —
і вы не кажаце мне:
годзе?!

Якою тайнай і святлынню
душа заручана з душой?
Я не магу вам стаць чужой
па-за разлучнаю мяжой —
над тумановай часу плынню.

І што з таго, што разышліся
шляхі і лёсы — ваш і мой,
калі над грэшнаю зямлёй
лунаць
і дыхаць сінявой
аднойчы душы абракліся?

* * *

Як холадна ля вашага агню!
Маўчу
начною птушкай несагрэтай.
Нікога ў добрым свеце гэтым
за ўсё, што не збылося — не віню.

А кола круціць незалежны час —
і гаснуць дні,
світаюць ночы...
Над полымем
зламаўся цень жаночы:
вас выракаюся
ў апошні раз!

І адступлю ад вашага агню,
зноў стану цемрай,
стану ноччу.
А вам давеку смутак напрарочу
за ўсё —
у чым нікога не віню...

# Я РАДАСЦІ МАЛІЛА І КАХАННЯ

Я радасці маліла і кахання!
І расчытаў нябёсаў чуйны слых
мой шэпт гарачы —
                    між зіхання
свяцілаў
          і вялікіх, і малых.

Я ж радасці маліла і кахання,
імя шаптала, быццам заклінанне,
услед табе ірвалася дыханне,—
я радасці маліла і кахання...
І неба адгукнулася ў адказ:
пустэльны горад,
                    шлях мой без адхлання,
вандроўнік незнаёмы
                    ў ранні час...
— Ідзі да храма! —
                    мовіў ён таемна,
букецік яркіх астраў несучы,
лагодна пасміхнуўся, што дарэмна
трывожу слых нябёсаў уначы.

Усё было, усё ўжо адбылося...
І дзве дарогі згорнуты ў сувой,
а словы, як пабітае калоссе,—
трымаю на руках набытак свой.
Зямны набытак —
                    біты, перавіты
істужкамі няспраўджаных дарог.

Квітнеюць астры, нібы аксаміты,
у марыве высокага нябыту
і шчасце,
што ніхто з нас не збярог.

* * *

Пасміхнуся няпэўна і горка,
падзіўлюся ў халодныя вочы.
Птушка ўдарыць у шкло
апаўночы,
захліпнецца маўчаннем гаворка.

Ні масточка, ні кладкі надзеі,
паміж намі прадонне пусцее.

Азірнешся, каханы,—
ноч бачыш,
і паклічаш —
мяне не пачуеш.
Я за сёмай гарой заначую,
за дзевятаю хмарай заплачу.

І слязінкай сюды не вярнуся.
Я давеку з табой размінуся.

* * *

Страпяніся, душа,
басанож па марозе
адыходзіць у зорную далеч любоў.
Развітайся на белым, настылым парозе —
без спагады, без жалю, без слоў.

Развітайся... Суцішыцца боль невыносны.
Гэта неба высокім над намі было,
і кранулася памяць блакітным крылом —
як нацятыя струны, заплакалі сосны.

Адыходзіць любоў. І твой сум беспрытульны
застаецца блукаць давідна
ў гэтым доме — чужым і няўтульным,
дзе я жыць застаюся адна.

* * *

Сем гадоў, як сем рэчак,
працякло, адплыло.
Стала ўсё недарэчным,
што за імі было.
Не жанчына — рабыня
пераходзіла плёс.
Аблачынкі рабыя
па вадзе вецер знёс.
Ці не годзе трывожна
узірацца ў прастор,
дзе ў разлогах мурожных
заціхае дакор?
Па-за хмарай абложнай
птах нябачны крычыць:
«Даравацъ усё можна,
нельга толькі забыць!»

* * *

Што з таго, што не мяне кахалі,
не мяне, бы вочка, берaглі?
Слёзы не праясняць мае далі,
не размыюць рэчак берагі.
І якая справа аблачыне
у надземным пошуку быцця,
што любоў адмоўлена жанчыне,
што яна — як горкае дзіця,
у самога
Пана Бога...

* * *

То мароз, то адліга —
на паўгода зімы.
Туманы ціха-ціха
заплывуць у дамы.

Атуляюць нас волка,
наліпаюць да рук:
быццам памяць — і толькі
ад спазнаных разлук.

Свет, падманны да скону,
зноў мяняе няўзнак
залатую ікону
на пацёрты пятак.

Пэўна, час прымірыцца
з гэтым лёсам...
зімой...
Адно — сэрца сініцай
б'ецца ў крыўдзе нямой.

* * *

Прытулілася ночка да белага цела,
залаты маладзік на падушцы пуховай.
Загарэліся вокны —
і ружовая зорка ўляцела,
яснай свечкаю стала ў галовах.

Асвятлілася цемра высокім палётам
і на кніжнай паліцы —
аблічча мадонны.
Так яшчэ не смактала душу адзінота,
паратунку няма ў чорна-сінім прадонні.

Мой каханы — далёкі,
бліжэй — месяц высокі,
не засвеціцца твар
у аправе далоняў жаданых...
Пазначаюць мяне між усіх некаханых,
як радзімкі, расстайнае зоркі апёкі.

* * *

Не магу гэтак жыць
і не ведаю, як жыць іначай.
Жыць, як дзень набяжыць...
Пажуруся, пасмяюся, паплачу.
Падрасла адзінота, нібыта атава,
на пакосах рамонкі цвітуць
яснавокаю горкаю славай,
пчолы песні над імі гудуць.

Забываю: дарогі — мана,
я шукаю ў дарогах спатолі.
Дзе начуеш, мая ты віна,
дзе блукаеш з цямна да відна —
а ці ў лесе, ці ў лузе, ці ў полі?

Адгукніся —
я цябе пашкадую,
пакажыся —
я цябе паратую,
прыхініся —
дам кабылку рабую,
срэбны воз, збрую шчэ залатую.

А пасля я цябе павязу
па каменнай дарозе — куды загадаеш.
Каля быстрай ракі навяжу на лазу,
заначую з табою, віна маладая.

Заначую, а мо завякую —
як зязюлька ўжо мне накукуе...

## ВОЎК

Каля цёмнага лесу
сярод чорнае ночы
па-над ясным агнём я шчырую.
Звер, прыгожы і горды,
з самотаю воўчай
узіраецца ў цемру сырую.

Патанае рука
ў яго поўсці ласкавай.
Мне знаёмыя гэтыя вочы.
І пакутуе звер,
і з самотай чакае
волі — вольнае, воўчай.

Я яго не трымаю
ані сілай, ні словам,
ці саслаблі калматыя лапы?
Падымайся, мой сябра,
прэч у лес свой яловы!
Што ж на боскі агонь ты патрапіў?..

## ПАД САМЫ НОВЫ ГОД

Пад самы Новы год,
калі зялёнаю іглiцай,
цякуць апошнія хвіліны на далонь,
пад самы Новы год,
як кропелькі жывіцы,
я сабяру свой боль —
і кіну на агонь.

І чарадзейна
перарвецца часу рух,
і прыйдзе той,
хто мог бы стаць адзіным,
на мой агонь —
жывы і дзіўны,
што ціха свецiцца між завірух.

Мне б не пытаць пра справы —
не спытаю,
мне б не трывожыць памяць —
памаўчым.
І толькі па вачах я прачытаю
прасветлы жаль.
Па кім? Па чым?

Мой добры сябра,
даўні, верны,
як даўні боль і золкі лёс,
яснеюць зоркі ў небе,
пэўна,

бярэцца студзень на мароз
пад самы Новы год...
I сыплецца ігліца
на люстраны паркет,
нібы на тонкі лёд,
і ціха плача воск,
як на агні жывіца,—
пад самы новы Новы год.

* * *

Не шкадуй мне любові сваёй,
не шкадуй.
Тонуць белыя рукі ўначы,
як на сінім на моры ключы
ад світання...
Гэты вечар —
на радасць, бяду?
Промень месяца я перайду —
не шкадуй мне пяшчоты сваёй,
не шкадуй...
Свеціць ясная зорка ў акно,
ёй, высокай, вядома даўно
векавое расстанне.
І пакуль не прабіла
гадзіна разлук,
не спяшайся разняць кола рук,
і ратуй маю душу,
каханне...

* * *

Плыткі плыт мой каханы зрабіў
і пусціў па рацэ.
Дожджык восеньскі — золкі, рабы,
мне сячэ па шчацэ.

Круціць плыт на глыбокіх вірах,
я ж не маю вясла.
Ды пакінуў мяне божы страх,
і рака панясла.

Мой каханы, прыгожы,
выходзіць з вады,
мне ж ударыла ў грудзі змяя.
Міг астатні —
і на целе ягоным тады
праступіла радзімка мая.

6. Зак. 5136.

* * *

Гэта толькі дарога.
Мне прымроіўся цень.
Ад кахання былога
йшоў падманны прамень.

Супыніўся над кручай
у сырой цішыні...
Над вадою бягучай
ты мяне ўспамяні:

як былую забаву
ці глумленне з жыцця?..
Падрастае на славу
ў маім доме дзіця.

Зноўку вольнаму — воля?!
Ад сябе не ўцячы:
адзінокі да болю
цень стаіць уначы.

Адплыве за туманам
залаты маладзік.
Вось і промень падманны
калыхнуўся... і знік.

* * *

Сыходзіць поўні светлы час,
гусцеюць цені.
Да неба ў велічы акрас
маё маленне.

Пазбаў атрутнага агню —
мае літанні! —
развей на пыл і цішыню
пачуццяў здані.

Маё каханне — ува мне,
ратуй ад глуму.
Пакутай сплочана віне,
надзеяй — тлуму.

Усё аплочана спаўна,
дай вызваленне!
Мая любоў была віна,
цяжкое сненне.

Шапчу ў маленні: Божы дар
не кінь на здзекі,
пазбаў нявартасці ахвяр —
навекі!

# МАЯ МАЛЕНЬКАЯ ДАЧУШКА

Мая маленькая дачушка,
а тры гадкі — як тры радкі,
і белагрудыя тры птушкі
ляцяць у белы свет з рукі.
Благое хай на мне замкнецца.
Твае ж усмешкі-матылькі
мне лечаць зболенае сэрца...
Ці час такі?
Ці лёс такі?
У нас яшчэ ўсё добра будзе,
і шчасце нас не абміне.
Няхай чужыя людзі судзяць,
не папракні, дзіця, мяне,
што зайчык сонечны спыніўся,
што разарвала ў доме столь,
і з кім наш тата ажаніўся —
хай будзе толькі мамін боль.
А ты расці, ты зайку гушкай,
расчэсвай лялькам завіткі,
мая маленькая дачушка,
жыцця праменьчык трапяткі.

* * *

Тугою зроднімся адной:
зялёны куст — па ружы белай,
яна — па кроплі расяной,
раса — па ўсмешцы заінелай.
І я — аб марнасці надзей:
мне не прыжыцца ў тваім свеце.
Хай стогн не вырвецца з грудзей
і боль да Бога не ўзнясецца.
Паплачам — кожны аб сваім:
раса амыла куст і ружу...
Ты ўжо ўспамін,
і ён, як дым,
запаланяе, мучыць душу.
Даўлюся горкаю слязой —
цяжкою спадчынай падманаў.
А скрозь зняменне —
шэпт малой:
«Не плакай, мама!»

* * *

Плача голас танюсенька-тонка,
плача, ценькі, у досвітнай высі...
Маладая шчаслівая жонка,
а ці чуеш? —
прачніся!

Да акна падплыла аблачынка —
твае вокны расой набрынялі —
там маленькая плача дзяўчынка,
што яе
на цябе
прамянялі.

Яе крыўды агністая гронка,
як зара, у твой дом прамяніцца.
Гэта госця,
шчаслівая жонка,
прыплыла на цябе падзівіцца:

а ці радасна тут яе татку,
ці не мулка з табой побач спіцца?..
Што ж адкажаш малому дзіцятку?
Палымнее зара-зараніца!

## СВЕТЛЫ МЕСЯЦ

Светлы месяц, ясны мой васпане,
ты каханаму
вярні каханне!

Што дарыў — няхай і спажывае,
у падмане век свой дажывае.

Дзе б ні быў і з кім ні бавіў часу,
хай заўжды сваю прыгубіць чашу.

А ці хмельна? Раптам — зацвяроза?
Ці гарэлка гэта, а ці слёзы?

Зла няма. Хачу адно — адхлання!
З кім прыйшло — то з ім і йдзі, каханне...

Прабачай, калі ты крыўду мела,
я цябе глядзела, як умела...

Ясны месяц,
я не праклінаю:
я каханаму — любоў яго вяртаю.

* * *

Святло святлей, чым цень пакуты.
І я не верую ў расстанне.
І выракальныя мінуты
мінаюць.
Вечнае паўстане
па-над жыццём і лёсам ломкім,
па-над адчаем і журбою.
Пакуль кахаю — над табою
не стане неба
горам горкім.

## ГРУГАН

«...Ані з кім,
як са мной,
аніколі
не знайсці на зямлі табе долі!»

Я расплюшчыла вочы:
туман,
размаўляе са мною груган.

«Я цябе буду верна любіць,
бараніць,
час міне —
ты сама пакахаеш мяне!
Ты аб шчасці маліла да Бога —
я ляту да цябе ад Самога.
Малады, чарнакрылы, магутны,
анікому з людзей не падсудны.
Белы лебедзь — адвечны падман,
самы верны, аддань — груган.
Я цябе буду верна любіць, бараніць,
час міне —
ты сама пакахаеш мяне!»

Ён казаў, я ў здранцвенні маўчала:
гэта сон — я сябе суцяшала.
А калі над зямлёю світала,
прада мной пёрка чорнае ўпала.
«...Ані з кім, як са мной, аніколі
не знайсці на зямлі табе долі!»

* * *

Кругазварот зімы і лета —
у кола часу
свае восі!
Як нам паверыць можна ў гэта,
што мы з табой — вясна і восень?!

Між намі сцюжы і грамніцы,
дачушкі ўсмешлівыя вочы,
між намі спёка, навальніцы
і арабінавыя ночы...

Лістка зялёнага далоню
табе працягваю — у восень.
Няўжо ў падмане, бы ў палоне,
мы столькі год
у пана Лёсу?

Твой смутак, як рабіны гронкі,
гарыць між барвы, пазалоты...
Не замыкаюцца ў пярсцёнкі
жыцця-быцця
кругазвароты!

## САКАВІК

Сакавік напаіў жывым сокам,
як жывою вадою, душу.
Прад жыццём і дачушкай схлушу,
як змарную палёт свой высокі.

Годзе страхаў і цёмнай юдолі,
калі ведаю шчасце маё.
Як паверыць, што цяжар зняло,
чыёй воляй мне дадзена волі?

Непамерныя, горкія страты:
мне нікога, нішто не забыць!
Дзякуй Богу, што вусны расцяты,
і што сілы стае — жыць, любіць.

* * *

Белы камень вадою надточыць,
ручаінкі праб'юцца з-пад снегу,
засмяюцца, зіму заласкочуць —
і памрэ тая хутка ад смеху.
Веснавыя сяточныя далі
захінуцца блакітным і родным...
Застаніся — святым і нязводным,
дзень высокі, што мы прычакалі!

* * *

Дарогі — ад краю да краю.
Паўнюткая восень дажджамі —
праз край.
На белых далонях
я чорную чашу трымаю,
і шэрхнуць далоні, нібыта кара.

Дажджы, туманы, раўчукі і крыніцы,
глыбокая Прыпяць, шырокі Дняпро,
па кроплі ад вод сваіх дайце
і зліце
мне ў гэтую чашу!
І зойдзецца гром —
над чашай і памяццю
неба расколе,
зялёнае лісце з дубоў абаб'е...
І мне да грудзей цёмна-вогненны колер
прыпа́дзе, як птушка:
ратуй жа сябе
ад вышняга холаду і ад нябыту,
прадроглая ў свеце любоў!

Дарогамі рукі мае перавіты,
разлукамі чаша мая пераліта,
а восень стаіць —
не відаць берагоў.

* * *

Прывезлі мне пачастункі
з Валодзевага вяселля:
арэшкі, прысмакі,
салодкія булкі з макам...
Цёткі-суседкі і мама мая
іх гатавалі,
дзень-ноч шчыравалі,
а потым вяселле гулялі,
пілі і спявалі,
і мама мая —
хоць цяпер і не часта спявае...

Накіну на плечы карункі —
цень вербаў зялёных
ад леташняй летняй дарогі,
бо раптам мне стала сцюдзёна —
чаму?..
Не распытваю многа,
я дзякую за пачастункі.
Ірвуцца ў далонях карункі...

* * *

Ёсць маўклівая тайна дажджу,
вось і зноў ля маіх яна вокан
і відушчым глядзіць шэрым вокам
скрозь вячэрні агонь...

Чуйна слухаю шэпт капяжу,
цішыня пад рукамі, як вожык,
не трывожу, што нельга трывожыць,
і гляджу скрозь агонь...

Ноч бязгучна ўплывае ў мой дом,
саграваё агонь яе крылы...
Як душу развярэдзіў дождж мілы —
за высокім, за сінім акном!

## ВЕЧАРОВАЯ ПОЗНАНЬ

Вечаровая Познань,
вечаровая Познань...
Цёмнай барвай
на дахі
спускаецца вечар,
і чароды аблок — кучаравых авечак —
паспяшаюць у далеч начную.
І позна,
вечаровая Познань, вечаровая Познань,
затрымацца на дзень,
на гадзіну
ці вечнасць,
наталіць свае вочы
красою тваёю:
тут я толькі праездам —
і ў тым недарэчнасць!

Абяцаннем сустрэчы
душу супакою,
што няведама чым і чаму ўсхвалявана:
незнаёмым мне горадам,
вечарам познім
ці тваёй таямніцай, нікім не спазнанай,
вечаровая Познань?..
Вечаровая Познань!

* * *

Лістапад, лістабой —
на паўсвету зноў восень.
Залатою журбой
вецер сцежкі заносіць.
Пацямнела вада
на рачулках, азёрах.
Мне зусім не шкада
ані лісця, ні зорак.
Адшуміць лістапад,
шчэ народзяцца зоры...
А куды йдзе наўгад —
адзінокі, празоры,
заімжэлы мой боль,
зацярушаны лісцем?..
І наўкол, як калісьці,—
зарапад, лістабой.

7. Зак. 5136.

* * *

Прыходзяць прымірэнне і цярплівасць.
Адно яны — ратунак непазбежны.
Жыццё змяняе гнеў на міласць,
на супакой святочна-снежны.
Абраза, даўкая, тупая,
не будзе помніцца і сніцца.

Згарнуўшы крыллейкі, ступае
на снег гарачая сініца.
Слядочкі — тайнапіс прыроды...
І я жадаю
у тлуме, гудзе
дайсці з душой сваёй да згоды,
згадаць усё,
што заўтра будзе!

## ПАВЕТРА

Я — паветра.
Вада мне раднёю даводзіцца кроўнай.
Раўчук неразумны кідаецца ў спрэчкі,
мудрыя воды — у згодзе са мною любоўнай.

Я — паветра.
Сцялюся па долах, зямлю атуляю,
адхукваю наледзь, загойваю раны.
Зямля нараджае — я пешчу, люляю.

Я — паветра.
Не плоць, не хмурынка, не дымка.
Агонь — мой каханы,
маіх ён жадае абдымкаў.

Я — паветра.
Дыхайце мною на поўныя грудзі!
Але:
якое мяне выдыхаеце —
такое і неба над вамі будзе!

# ПАЕДЗЕМ У ТУРАЎ КНЯЖЫЦЬ

*Паўлу Шрубу*

Паедзем у Тураў княжыць...
У Тураве Прыпяць цячэ —
па левай шчацэ
ды па правай яшчэ,
глыбокая Прыпяць, мой княжа!

А дзе тое княства?
Сышло пажарамі.
Блакітная сцелецца рунь,
дзе долы ўзараў пан Пярун.
То пойдзем,
мой княжа,
нізамі,
гарамі
па роднай зямлі —
да ракі-пераправы...

Сарве ўборы вецер,
касу разаўе.
Па кубках старое віно разалье
чарнявы паромшчык —
за гордую славу!

«За вечныя леты-ы!..» —
шырокія хвалі пагойдвае Прыпяць...
Ракіты... Стагі...
І голасам траў
шэпчуць нам берагі:
«Тут соладка, княжа, вякі спачывалі!

Праз неруш стагоддзяў —
званамі, мячамі,
пачуй:
азываецца з даўняй пары
з рамонкавай белай гары
тваё спапялёнае княства
начамі!»

* * *

Такая здараецца ціша —
у час перамогі
                    або паражэння...
Пакой запаўняе,
                    фіранкі калыша
дух адчужэння.

Ён сёння адзіная праўда.
Ён горды!
І можа душу абязболіць.
Змаўкае, сцішаецца горад,
і зорка завісла —
                    між небам і полем.

Якая яна, невядомая сіла,
парушыла вечны закон прыцяжэння?
Звініць на пякучым марозе асіна...
Дух адчужэння...

## ДА МІФА АБ ВАЛАСАХ ВЕРАНІКІ

*Маёй бабулі Ганне*

Дзівіліся людзі: такая краса!
Навошта яна сіраце?
А ў Ганны, як чорная ночка, каса —
хто косу яе распляце?

Рабы ды нялюбы — карону:
«Пасаджу ў балоце — галава ў пазалоце».
А любы, абраны на згубу:
«Ці чуеш? —
крычаць груганы і вароны...»

Дзівіліся людзі: такую красу
даў Бог — не шанавала.
Салоўкі пілі на світанні расу,
кароткае шчасце — як ноч на Купалу...

Ляжалі дарогі ва ўсе канцы свету.
Круціў век віхурны агнём.
Прагледзела вочы за ноччу, за днём,
чакала — ні весткі, ні следу.

Штовесну буслы прылятaлі,
штолета жыты красавалі,
штовосень лясы ападалі,
штозіму снягі замяталі...

І адцвітала, бялела каса,
употай ад вока людскога.
Маўчалі нябёсы. Маўчала дарога.

Такая краса
ўжо больш не адорыць нікога.

Ярчэй свецяць з цемры скразной
каханне і вернасць —
з зямное арбіты...
Я ведаю, зоры,
чыёю касой
навек вы ў сузор'е спавіты!

## ВЕЦЕР

Паміж трывог і бед зямных
пра ўсё, няспраўджанае ў свеце,
шапоча і даймае слых
мой спадарожнік —
позні вецер.

Адкуль ляціш, з краёў якіх,
вандроўнік вечны, легкакрылы?
Здаецца, дыхаюць вякі
ў тваіх грудзях
і ў небе мілым.

Скажы,
што помніш, дзе кружыў,
па-над магіламі чыімі?
Якія ў часу рубяжы,
што па-над імі,
што за імі?

Вятрам, відаць, не страшна смерць,
бо крылы дадзены
і памяць.
Шапочаш: годзе ўжо ляцець,
што бліскавіцы крылы паляць...

Гусцее змрок, чарнее бор,
прад намі шлях бяжыць мурожны,
давай заключым угавор,
мой вецер позні спадарожны:

раз удваіх лягчэй ісці,
куды? —
абы вяла дарога! —
са мной застанься па жыцці
ці праўдзі хоць да парога,

дзе ты спачнеш, і я спачну,
дзе ўсё няспраўджанае — праўда,
і я наноў жыццё пачну...
Але ўсё гэта будзе... заўтра!

* * *

Якога прагну шчэ цяпла,
якога зноў шукаю жалю?..
Цякла рака — пяском сцякла,
а поўнач — з лёду і са шкла...
Я ад'язджаю!

Я ад'язджаю ў раз які,
нібы ад'езд што пераменіць
і нас наблізяць цягнікі,
а ў чыстым полі ветракі
ў муку разлукі перамелюць...

Цямнее неба скрозь агні
чужых паўстанкаў зіхатлівых.
Світае ноч на далані.
Да слёз,
            да шэпту ў цішыні —
хачу шчаслівай быць,
                                    шчаслівай!

Аднак наноў мяне вяртай,
лёс — неаспрэчаны і строгі,
на незніжэлыя парогі...
Дарог нямераны адчай
плыве ў світальныя разлогі.

* * *

Любоў мая, а ты мацней, чым я:
якім святлом ты памяць апаліла!

Расце трава на ўзмежках, нічыя,
і наліваецца гаючай сілай.
Яна слязой празрыстаю ўначы
загойвае раз'ятраныя раны.
Цвіце — гарчыць,
ірвуць — маўчыць.
Разлог яе не заараны.
Яна — нязводная:
зямля
трымаецца за гэты корань болю.
Як стаць мне роўнаю з табою,
святлынь зялёная, любоў мая?

## СОН-ТРАВА

Анідзе,
як на дальняй градзе,
быццам неба,
бязмежна цвіце
сон-трава веснавая.
Вечным цягам
спакойна ідзе,
ручаінамі
звоніць, гудзе
зноў вада снегавая.
Пералётная птушка —
не госць
на зямлі,
запаветнай і роднай.
Я таксама была тут
і ёсць
дзікай кветкай,
блакітнай, нязводнай.

Сон-трава
край лясоў мне світае,
сон-трава
і радзіма святая.

* * *

Двух дрэваў самкнуліся кроны,
яснеў, як прагал, небакрай.
Пад іх нераз'емнай каронай
вароты, здалося, у рай.

Бяссэнсавай працы навала,
няпэўнасць бяздом'я ў жыцці...
Я кожнага разу мінала
заместа таго, каб прайсці

ў збавенны спакой тых varотаў,
у сінюю далеч нябёс.
Магічным быў страх незвароту
і страх у падман маіх кроз.

Змяняліся зімы і леты,
наладжваўся сціплы мой быт...
Што ж сніцца ў святле фіялету
знаёмы той шлях у нябыт?

* * *

Мокры снег. Галалёд.
Асцярожна брыдзе, па-старэчы,
за край свету
спакутваны год.
І кладзецца мне неба на плечы.

З белай хмары на правым плячы
снег
трывожны мой след замятае.
З шэрай хмары на левым плячы
туманом
снег і след той з'ядае.

Цяжка несці нябёсы
і страшна ўпусціць:
надта нізкія сёлета хмары...
Да зямлі ім прыпасці
даўно ўжо карціць
і спачыць на яе сумным твары.

Уздыхну —
уздыхаюць нябёсы, паўнюткія слёз.
Непамерны цяжар я нясу на край свету.
І калі нас скуе ўсемагутны мароз,
нехта будзе, як долі, шукаць майго следу.

* * *

Спіць зямля ва ўборы снежным,
цішыня, як пух, ляжыць.
Я сыду ў прастор бязмежны:
як мне жыць — паваражыць.
А навокал — сон, і неруш,
і блакітны супакой,
што душой усёю верыш
у шчаслівы бераг той,
дзе са мной чакае стрэчы
вырай,
родны, дарагі...
Неба ляжа мне на плечы —
і тады ў скразной сінечы
ўсе самкнуцца берагі.

* * *

Заляцела божае стварэнне
з ночы — на святло.
Два крылы,
зялёнае свячэнне
ад вачэй і крыл ішло.

На цяпло-святло ў жытло людское
гэтак безаглядна заляцець?
Думаеш, пад кожнаю рукою
можна ацалець?

Тут у нас такія, братка, жорны,
нават зоркі можна пытляваць.
У начы, вядома, колер чорны,
заляцела — будзем начаваць.

Слухаеш, варушыш ледзь вусамі,
дзіўнае, зялёнае зусім...
І не ведаю, аднойчы самі
да каго куды
мы заляцім.

8. Зак. 5136.

* * *

Развіваюцца дзікія лозы,
зацвітаюць пушыста, мядова.
І, як пчолкі, злятаюцца крозы
ў запаветны куточак вясновы.
Ім прывольна, ім светла і цёпла,
дзе маленства маё верабейкам
шчабятала над кожнаю кропляй —
залатою, світальнай, маленькай...

* * *

Як сонца
ў глыбокія воды
упала,
шумліваю пенай
самкнуліся хвалі
і ўсё праглынулі
і ўсё пахавалі...
Трывогай
зямлю ахапіла,
як палам.

Бясконцая вечнасць
нязбытным цяжарам
ад краю — да краю
акрыла прасторы.
І што да таго,
што гарыць мае гора
маленькім, апошнім,
расстайным пажарам?

Суцішыцца ноч
на зямлі і на небе,
на вейках яе
я застыну расою.
Пракінецца дзесь
залатой паласою
прыгожы
Свет Божы,
якому пакута не трэба.

## КРОЎ

На адзежы маёй праступае
кроў — сухая, старая, сляпая.

Праступае з калішняе раны,
неспадзеўнай, глыбокай, парванай.

Праз рубцы і схаваныя шнары —
яна ўсюль, хіба што не на твары.

Як цяпер між людзей з ёй прыжыцца?
Ні вачэй, ні суду не баіцца.

Хто мой боль неадрынуты ўбачыць,
хай даруе ці хоць бы прабачыць...

Кроў з пакутнай душы, а не з цела
праступіла, навек прыкарэла.

* * *

Разамкніся, сляпая пустэча,
расступіся, бяда, як вада.
Мне прызначана верная стрэча,
і чакае мая чарада.

Непазбыўная прага надзеі,
залатая заранка з-за хмар.
Сёння лебедзі ў небе ляцелі,
сёння ясніўся мне светлы твар

Божай Маці
над цёмным раздоллем,
над спалоненым лёсам маім.
Я за выраем рвуся з юдолі —
лебядзіным, святым, залатым.

* * *

Прамень святла па цёмнай зале
кідаўся ў пошуку святла...
Мы шчэ нічога не сказалі,
надзеі ніць не разарвалі,
між намі тайна шчэ жыла.
Жыла, як ліст на верхавіне,
калі наўкола — лістабой.
...Ты моцна ў шчырасці мне вінен!
Але я ўдзячная галіне
з жывым лістком, нібы журбой,
які трымціць, які трапеча,
які не хоча ападаць.
Такая дзіўная сустрэча!
І просіць сэрца ў гэты вечар
сказаць табе ці знак падаць,
што анічога не мінула,
што разлюбіць я не магла...
У зале, поўнай змроку, гулу,
цябе не промень —
я кранула
святлом... у пошуку святла.

## НЕ АБЯЦАЙЦЕ...

Не абяцайце гэтак пэўна
ні зор, ні гор мне залатых:
даўным-даўно я маю іх,—
хвіліна шчодрасці дарэмна...

Ёсць і ў мяне свае палацы —
сярод нябёсаў і аблок.
На той шчаслівы астравок
імкнуць паэты і паяцы.

Адтуль, магчыма, найдарожай
і сум, і тлум, і дзень зямны,
і подых кожнае вясны
хвалюе мрояю прыгожай.

Ваш голас — з весняга павеву...
Паабяцайце мне цяпло,
і што ліхое ўсё сцякло,—
і я, напэўна, вам паверу!

## ІШОЎ ГАСПОДЗЬ БОГ ПА ЗЯМЛІ

Ішоў Гасподзь Бог па зямлі,
ішоў па лугах і палетках,
і нівы спакоем цвілі,
і шчасцем свяціліся кветкі,—
ішоў Гасподзь Бог па зямлі!

Ішоў Гасподзь Бог па зямлі,
быў свет, як дзіцятка, прыгожы,
і сонца шчэ гнеў не замгліў,
ні плачу, ні слёз, ні магіл...
«Не можа такога быць?» — «Можа! —
ішоў Гасподзь Бог па зямлі».

Ішоў Гасподзь Бог па зямлі,
зрываў залатыя налівы,
вясёлкі расінкі пілі,
і дзумкалі пчолкі ў галлі —
і Бог быў па-божы шчаслівы!

Ішоў Гасподзь Бог па зямлі...

## НА КАЛЯДЫ

Дождж як з вядра лье на Каляды,
апошні снег у Свіслач збег...
О дзе, мае вы снегапады,
духмяны снег, прачысты снег?

Усё не ў час, і дождж не ў пору,
і шлях Бог вед куды вядзе.
Які ўжо год, нібы пад гору,
я крочу гэтак, у вадзе...

Мне за сябе больш не трывожна,
і небам дадзены быў знак:
хаця забіць мяне і можна,
але вось знішчыць — аніяк!

Я азірнуся, адгукнуся
на покліч роднае зямлі,
я Беларуссю наракуся...

Як сарцавінaчка ў камлі,
збяру ў сябе любоў і памяць.
Шумець — галінам, мне — маўчаць,
пакуль прад Богам не запаляць,
не здымуць з губ маіх пячаць.

Благаславенныя Каляды
у хваласпеве дзень зачнуць...
І хлынуць небам снегапады,
яны мяне ў сябе ўдыхнуць.



Хтось лічыць золата, манеты,
а хтосьці — зоры.
Я ж узялася лічыць леты,
як хвалі ў моры.
Лічыць — зязюльчына турбота,
ды мне вядома,
як плешча мора Герадота,
і там я — дома,
бо там у травах спаконвечных
не, не манеты:
там лёсы родных, боль сардэчны,
мае там леты.
Ах, тыя леты-бранзалеты
гараць святлынню.
Нібыта спелыя ранеты,
іх зносіць плынню —
на часу вечныя прасцягі,
на колцы лёсу...

Бягуць услед сцяжынкі-сцягі
ды з лета ў восень.
Жыцця імклівыя прыкметы
у жнівень — з мая,
благаслаўляю свае леты,
усе, што маю:
з грамамі, градам і залевай
або са спёкай,
і са шчаслівым песнаспевам,
з тугой высокай.

Хтось лічыць золата, манеты,
а хтосьці — зоры...
Шумяць у травах мае леты,
як хвалі ў моры.

## ЗМЕСТ

**Канапелька А.**
K19 Летазлічэнне: Вершы.—Мн.: Маст. літ
1999.— 127 с.

ISBN 985-02-0010-3

Лірычна-філасофская паэзія Алы Канапелькі ўражвае сваёй да лікатнасцю і чысцінёй, спрадвечнымі пошукамі ісціны, засяроджанасцю. Тэма кахання праходзіць стрыжнявой лініяй праз увесь зборнік. Даверлівасць жаночай душы вылілася ў шчырую размову пра дзень сённяшні і мінулы.

УДК 882.6-1
ББК 84(4Беи)6

Літаратурна-мастацкае выданне

**Канапелька Ала Іванаўна**

ЛЕТАЗЛІЧЭННЕ

Вершы

Рэдактар Л. В. Дранько-Майсюк. Мастак А. М. Малышава. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктары В. Л. Бур'як, А. В. Спрынчан. Аператары В. І. Барута, Я. А. Бажэнава.

Падп. да друку 10.06.99. Фармат 70x90[1]/32. Папера афс. № 1. Гарнітура Тып Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 4,68. Ум. фарб.-адб. 4,83. Ул.-выд. арк. 3,55. Тыраж 1300 экз. Зак. 5136.

Набрана і звярстана на настольна-выдавецкай сістэме.
Выдавецкае дзяржаўнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 3 ад 19.11.97.
220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Друкарня «Перамога». 222310, Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11.